# БЕЛАРУСКІ ЗВОН



ТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ

| | |
|---|---|
| Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня. Віленская вул. 33. Рэдакцыя адчыняна: 10—2 штодня апрача сьвяточных дзён. | Цана кожнага нумэру 5 м. Падпіска на 3 месяцы каштуе 50 м. (з дастаўкай да хаты). Цана абвестак: 5 м. за радок пэтыту (на 4 стр.). |

Год I. Вільня. Аўторак, 22 сакавіка 1921 г. № 1.



## Пад старым штандарам.

Чытаючы справаздачы аб сходах Лігі Народаў, на якіх разважалася справа Вільні, прыглядаючыся да сучаснага нашага палітычнага жыцьця, да газэтаў, не адзін пэўне сумленны і праўдзівы чалавек задаваў сабе такое пытаньне: вось з-за Віленшчыны ідзець такая калатня паміж Польшчай і Літвою; ды і беларусы дапамінаюцца часамі аб свае правы на гэтую зямельку. Да каго-ж-такі яна па праўдзе, па справядлівасьці павінна была-б адыйсьці? Хто гаспадар на ёй: беларус, ці паляк, ці літвін, а хто падсуседак? Як уляжыць долю гэтага краю, каб ён зазнаў урэшці супакой, каб успомніў лепшые часы сваей багатай мінуўшчыны?— Шмат хто, не падумаўшы, лёгка разьвязвае гэтае пытаньне: далучыць да Польшчы, далучыць да Літвы і г. д. Але апошніе падзеі ясна паказалі, што справа Вільні не такая простая. Ужо каля паўгоду як гэтая справа зьвярнула на сябе ўвагу ўсяго сьвету і, ня гледзячы на аграмадные патугі, з розных бакоў паўзятые, разьвязаць яе ня ўдалося.

Пэўне-ж, найбольш гэтая справа закранае нас, беларусаў, бо ад яе разьвязаньня залежыць і доля рэшты Беларусі, і ўсё дзеля гэтага мусіць з даўных ужо часаў беларуская грамадзкая думка стала на ядыны магчымы і правільны грунт, асабліва цікавы сваёю бесстароннасьцю. Беларусы хочуць, каб нашая старонка была бацькаўшчынаю для ўсіх яе чародаў, каб яе нікуды не далучаць, нікому не аддаваць. Каб сам тутэйшы жыхар, ці ён так ці йначай гаворыць, ці сьвядомы ён беларус, ці пачувае сябе паляком альбо літвіном—каб ён быў гаспадаром на сваей зямлі, а не прыежджые госьці, каб была старана наша незалежнаю рэспублікаю, ды яшчэ каб была яна і непадзелянаю. Каб наша дзедаўшчына — ад Балтыку аж пад Дарагабуж, усе землі колішняга Вялікага Князьства Літоўскага разам з'яднаніся каля сваей старой сталіцы Вільні, каб у новых палітычна-соцыяльных формах адрадзілася старая слаўная дзяржаўнасьць, якую збудавалі нашые дзяды, за якую ішлі паміраць яны і гэтулькі крыві сваей і варожай пралілі. А ў межах гэтай дзяржавы, каб усе народы, як гэта ўжо заведзена у перадавых краёх,— мелі якнайшырэйшые магчымасьці для разьвіцьця сваіх культурных і палітычных сілаў, для усебаковай сваей нацыянальнай творчасьці.

Збудаваць гэтак жыцьцё нашага краю было-б зусім лёгка, калі-б была згода паміж нас самых, жыхараў гэтага краю, каб не цягнулі мы — адзін да Варшавы, другі да Коўны, а каб усе зыйшліся разам у сваей прыгожай Вільні, якую нам не заменіць ні адно з пералічаных местаў, і каб пастараліся злучыцца ў адным супольным высілку дзеля дабра толькі нашай Бацькаўшчыны. Гэтага нажаль няма. Літвіны ў большасьці можа і хацелі-б, каб вярнуліся часы слаўные мінуўшчыны, але—каб яны былі інакшые: каб заместа мудрай палітыкі Мендоўга, Ольгерда і Вітоўта панавала тут палітыка, якую да нядаўных часаў вялі ў сябе на бацькаўшчыне мадзяры і прусакі; адным словам „сучасная“ палітыка. Тое аб чым

толькі могуць набожна лятуцець літвіны, маюць магчымасьць па практыцы праводзіць палякі. Адварачуючыся ад дзяржаўнай ідэі гістарычнай Літвы, якая і ў іхным нацыянальным бытаваньні нечага была варта, кінуліся яны выкарыставаць свае часовае пануючае палажэньне ў краі. Апіраючыся на штыхі, хочуць яны зрабіць нас усіх не палякаў—палякамі, а нашу старонку Польшчаю. У Горадзеншчыне яны проста такі прасьледуюць беларускі нацыянальны рух, часамі навет памагаючы маскалём. Ня трэба хіба і казаць аб неразумнасьці гэтай палітыкі. Урэшці і сярод беларусаў знаходзяцца часамі людзі, якіе зьняверыўшыся ў сілах беларускага народу, згаджаюцца на тое, каб зямлю нашую падзяліць дый аддаць Вільню разам з Заходняй Беларусьсю Літве ці Польшчы; каб, адным словам, абазначыць цьвёрда ўжо цяпер заходніе граніцы незалежнай Беларусі. — Дапушчаючы, што і гэтые беларусы сваю тэорыю змогуць апраўдаць дабром Бацькаўшчыны і агульным спакоем, мы хочам сказаць, што усёжтакі гэта задарагая цана. Ніякім чынам ня можам мы, беларусы, выракацца нашых заходніх паветаў, найбольш культурных, нацыянальна-сьвядомых, ня можам нікому аддаваць Вільні, бо іначэй ня ўтворым саусім незалежнае дзяржавы, якое традыцыі наймацней трываюць у Вільні. Мусім мы, беларуская дэмакратыя, падняць стары наш штандар Пагоні—вялікі сымвол незалежнасьці. Гісторыя нашага народу даець нам навучаючы прыклад. Нашую народную культуру, якой выракліся паны і інтэлігенцыя, перахаваў наш сялянскі народ. Таксама перахаваў ён і традыцыі старой сваей незалежнасьці і няхто іншы, верым мы, а ён высака падыме штандар Пагоні і адбудуе Бацькаўшчыну для сябе і сваіх народаў супольнікаў. І хоць часамі гэтая місыя выдаецца і занадта труднаю—усё-ж мусім мы памятаць, што маем толькі адзін справядлівы шлях і зыйсьці з яго ня можым, бо тады яшчэ даўжэй будзе знаходзіцца край наш у анархіі, бязладзьдзі і пад чужым панаваньнем, бо несупакоіцца братабойчае змаганьне паміж нашымі суседзямі і паміж народамі нашага краю, покуль не перэканаюцца ўсе яго грамадзкіе групы, што паратунак нашага краю — ў яго еднасьці, у адбудаваньні яго дзяржаўнасьці ў гістарычных межах і на грунце гістарычных традыцый палітыкі.

# Дзьве орыентацыі.

У восені 1919 году, пасьля заняцця Менску палякамі, сабралася там Рада Беларускае Народнае Рэспублікі. Свае паўнамоцтвы яна мела ад усебеларускага кангрэсу, які адбыўся ў Менску ў сьнежні 1917 і абвесьціў усяму сьвету, што беларускі народ хоча жыць жыцьцём вольным, ва ўласным дэмократычным гаспадарстве, збудаваным на лад народнае рэспублікі. За гэта больш за-тысячны, пераважна сялянскі, кангрэс сілком быў разагнаны бальшавіцкімі камісарамі.

І вось йзноў у 1919 г. сабралася Рада пад штандарам незалежнасьці.

Трэба было думаць, што установа, пратрываўшая навет часы нямецкае оккупацыі, калі Рада спаўняла функцыі нацыянальнага органу, ня толькі зможа істнаваць далей, але знойдзе падтрыманьне ў сваей працы з боку польскае ўлады. Вышла йнакш. Адміністратыўным парадкам Рада была зачыняна,— а частка сяброў папала навет у вастрог.

Цяпер ясна, што гэта толькі пашкодзіла польскім справам, якіе вымагалі зусім другой палітыкі. Рабіўся рызыкоўны паход на Кіеў, каб паставіць на ногі незалежную Украіну, а на Беларусі тварылася зусім нешта інакшае. Да чаго мела весьці гэная палітыка было незразумела: польскіе міністры хваліліся, што супакоюць нас абецанкамі культурна-прасьветнай аўтономіі. А тымчасам, памагчы будаваць дзяржаўнае жыцьцё Беларусі было куды лягчэй за аружнае падтрыманьне украінскай незалежнасьці. Калі-б гэта было зроблена усё у сваім часе —інакш бы цяпер выглядаў рыжскі міравы трактат. Незалежная Беларусь была-б дэмократычным гаспадарствам, а не часткаю коммуністычнае совдэпіі. Праўда, мо' за гэта польская граніца не прайшла-б так далёка на ўсходзе,—але за тое Польшча была-б адгароджана ад Расеі жывым валам беларускага народу і... польска-літоўскіе справы выглядалі-б інакш.

Але горш за ўсё гэта тое, што такі неправільны ход польскай палітыкі разьбіў беларускі незалежніцкі рух на дзьве орыентацыі: польскую і анты-польскую. Адна частка Рады стварыла пераважна эс-эраўскі кабінэт з п. В. Ластоўскім на чале, і заняла адразу-ж варожую пазыцыю да польскай оккупацыі, уважаючы немагчымым ніякае супрацоўніцтва з палякамі ў даных варунках. Перабраўшыся за-граніцу і вядучы там сваю работу, яны ўрэшці натрапілі на адпаведны для сябе грунт і дайшлі з літвінамі да бліжэйшага паразуменьня.

Другая частка Рады перадала свае поўнамоцтвы выбраным пяці асобам, т. зв. Найвышэйшай Радзе, якая, ня гледзячы на трудные варункі, пайшла на лініі польска-беларускага збліжэньня.

Мы дужа цешымся, што ўрэшці ўдалося завязаць з літвінамі нейкі шчырэйшы вузел добрых адносін. Беларусы і літвіны—народы праўдзіва дэмократычные, сялянскіе, вякамі жылі адным жыцьцём і ў адным гаспадарстве; вяжыць іх прырода, гісторыя і блізкае суседзтва, датаго-ж адзін другому „мяжы не перагаралі"—дык чаму-ж ня быць узгодзе?! Сьмела можам сказаць, што не знойдзецца ніводнага беларускага палітычнага дзеяча, які-б шчыра не спагадаў літвіном. Гэта-ж так зразумела!

Незразумела толькі, запытаецца мо' які літвін або беларус „анты-польскі", на чым апіраюцца нашые сымпатыі да Польшчы—на сэрцы, на розуме?

Чаму не!—можна мець шчырую сымпатыю да польскага народу, калі-б навет афіцыяльная Польшча і не залішне падабалася. Temроra mutantur. Але пакіньма ўсе сымпатыі і антыпатыі, хай розум сьціхамірыць сэрцы. Жыцьцё і нацыянальная справа нашага народу змушае нас шукаць зьбліжэньня з польскім народам: нас злучаюць супольныя інтэрэсы і вякі сумежнага культурнага жыцьця. Нічога, што паміж намі стольki крыўд і соцыяльнай супярэчнасьці. А ўсім нам адна пагроза — ўсход! Гэта нас злучае—павінна злучаць!

„Отъ финскихъ хладныхъ скалъ до пламенной Колхиды" месьціцца гэтулькі народаў большых і меншых, са старою культурай і толькі цяпер адраджаючыхся! Але ўсе яны павінны стварыць адзін ланцуг і на ём трымаць той помаст, цераз які ўсход мае ўсьці на захад, а захад паўсход. Толькі трэба памятаць, што калі гэты ланцуг хоць у адным мейсцы разарвецца—усіх нас скрышаць і затаптаюць. Нiхто аб гэтым забыцца не павінен: ні паляк, ні літвін, ні украінец, ні беларус, ні грузін, ні фінн...

Тарас Навіна.

## Беларуская школа і беларуская кніжка.

Справа беларускай школы скранулася з мёртвага пункту, на якім яна затрымалася пры ўрадзе Усходніх Зямель. У той час, калі пры п. Асмалоўскім сотні сялянскіх прозьбаў і пастановаў асталіся без разгляду, калі руйнаваліся навет істнуючые школы (цэлы рад пачатковых школ і гімназія ў Буцлаве), цяпер у Сярэдняй Літве, дзякуючы даволі толеранцыйным адносінам ў нацыянальных справах першай урадуючай Камісіі,пасьпела стварыцца навет пры больш цяжкіх абставінах грамадзкага жыцьця даволі густая сетка беларускіх школ. Гэтак у Ашмянскім павеце знаходзіцца каля 130 беларускіх школ, каля 30 у Сьвянцянскім, у Вільні 7 беларускіх пачатковых школ, найменш у Віленскім павеце (2 школы). У гэтых школах вучыцца да 10.000 беларускіх дзяцей. Апрача таго ёсьць беларуская гімназія ў Вільні і нядаўна закладзена ў Барунах вучыцяльская сэмінарыя.

Ужо самы лік школ паказвае дасьпеўшую патрэбу навукі нашага народу ў роднай мове. Яшчэ больш гэта відаць з вялікага ажыўленьня праз усю сёлятнюю зіму ў беларускай кнігарні ў Вільні і пашырэньня выдавецтва, гдзе, ня глядзячы на цяжкіе выдавецкіе варункі, зьявілася ўжо прыватная ініцыятыва. Жыцьцё вымагае школы і народ чытае кніжку, і ня толькі яе чытае, але купляе. Выдавецтва ня можа ніяк здаволіць вымаганьні патрэб кніжнага рынку. Патрэбны ўсё новые выданьні.

Разумеючы, што без беларускай кніжкі ня можа быць запраўды беларускай школы, а толькі яе нейкі фальсыфікат, беларуская Школьная Рада ў Вільні парыхтоўвае вялікае выдавецтва школьных падручнікаў. Мобілізаваны ўсе літэратурна-навуковые сілы і магчымые грашавые способы. Ужо знаходзяцца ў друку найпатрабнейшые падручнікі для пачатковых школ і для першых чатырох клясаў гімпазіі. Апрацаваны падручнікі матэматыкі ў ёме гімназіяльнага курсу. Гатовіцца гістарычна-літэратурная хрэстаматыя з вялікім і багатым зьместам твораў народнай і новай беларускае лі-

Францішк Аляхновіч.

## НЯСКОНЧАНАЯ ДРАМА

пьеса ў 4-х актах.

АСОБЫ.

Васіль.
Ядзька, яго жонка.
Костусь, яго прыяцель.
Паўліна, прыяцелька Ядзькі.
Багдзевіч.
Дамаўласьнік.
Сторож.
Старажыха.

Рэч дзеецца ў Вільні ў часы нямецкай окупацыі

### АКТ I.

Сцэна мае дзьверы галоўные і дзьверы ў бакоўку, гдзе жыве Костусь. На сцэне ложак без пасьцелі, стол, крэслы, печ, клумкі.

### Зьява 1.

СТОРАЖ, пасьля СТАРАЖЫХА.

Праз нейкі час на сцэне нікога няма. Пасьля уваходзіць праз галоўные дзьверы Старажыха з мятлой і пачынае падмятаць падлогу. Праз момант уваходзіць праз гэтые самые дзьверы Сторож з куфрам, ставіць яго на падлозе, сядае на ім, зьнімае шапку і абціpae пот з лобу.

СТОРАЖ. Яны каменьняў сюды павалілі, ці што, што такая цяжкасьць!

СТАРАЖЫХА. Хаця-б і лёгка, а покуль на чацьверты поверх узабярэшся, дык добра сагрэішся!

СТОРАЖ. Мароз сягоньня траскучы, а покуль па гэтых паганых усходах узлезу на гару, дык увесь потам абальлюся.

СТАРАЖЫХА. За гэтакую работу скрыўдзіць не павінны.

СТОРАЖ. Э, чорт іх ведае! Жулікі, здаецца, якіесь.. Вось цяпер мне жывуць на іхнім падворку Валент, сторож, што за старую кватэру не заплацілі, жыдоўцы ў крамцы, набраўшы на павер, не заплацілі, крамніца цяпер праклінае на чым сьвет стаіць!.. Эт! ёсьць-жа і людзі, пажалься Божа!.. (вытрахвае з люлькі на падлогу попел).

СТАРАЖЫХА. Ты што? здурэў, ці што!? Я тут чышчу хату ажно са скуры лезу, а ён гадзіць на падлогу сваей махоркай!

СТОРАЖ. Э, для іх і так добра будзе!

тэратуры, нашага старога пісьменства і прымернікамі з літэратуры сусьветнай.

Вялікіе тэхнічные труднасьці, недахват грошай, але можам мець пэўнасьць, што ад новага вучобнага году беларуская школа стане на мацнейшы грунт і будзе мець больш нацыянальную вопратку.

Беларуская школьная справа скрапулася з месца ня толькі ў Віленшчыне, гдзе яна мае ўрадовае падтрыманьне, але навет там, гдзе ня толькі гэтага падтрыманьня няма, а навет ставяцца ўселякіе перашкоды, каторые даходзяць да простага загону беларускае школы, гдзе вучыцялі галадаюць, калі толькі не сядзяць у вастрогах,—навет там беларуская школа запускае глыбокае карэньне ў народзе. Прыкладам можа служыць Горадзеншчына, паветы: Лідзкі, Вілейскі, Дзісьненскі, гдзе вучыцялі, вытрымаўшы вострае змаганьне з рознымі самавольнымі выступленьнямі мясцовых урадоўцаў і жандараў, здабываюць для сваіх школ дзяржаўнае палажэньне.

Цяжка жывецца беларускаму народу пад бальшавіцкім ярмом. Але і стуль даходзяць да нас радасные весткі, якія перш-за-ўсё высьвяцяюць дзяржаўные адносіны савецкага ўраду да нацыянальных патрэб беларускага народу. Бальшавіцкая ўлада нядаўна выдала загад, каб навучаньне ў пачатковых школах Савецкай Беларусі вялося пабеларуску. У працягу 3-х месяцаў у кожным павятовым месьце павінны быць зарганізаваны курсы для вучыцялёў. Выдаюцца патрэбные падручнікі, хацяй з прычыны недахвату паперы гэтая работа пасоўваецца вельмі марудна. Толькі-што выйшла з друку тэорыя арытмэтыкі ў поўным ёме. Дзяржаўкае выдавецтва аднак рупіцца аб шырокай выдавецкай рабоце і зьвярнулася да ўсіх беларускіх пісьменьнікаў, якія былі на тэрыторыі Савецкай Беларусі, з прапазыцыяй выдаць поўные зборнікі іх твораў. Гэта работа дзеля недахвату паперы і інш. тэхнічных труднасьцяў будзе весьціся заграніцай. Менск рознымі спосабамі стараецца дастаць беларускую кніжку з Вільні. Сучасные палітычные варункі не пазваляюць наладзіць гэтага транспорту бліжэйшай дарогай і кніжные транспарты часта ідуць праз Коўну і Рыгу, а радзей проста праз лінію фронту...

Гэтак узмацоўваецца аснова нацыянальнага адраджэньня кожнага народу—яго родная школа. Узмацоўваецца з ўсіх бакоў, незалежна ад падзелу Беларусі, незалежна ад розных урадаў, кіруючых імі. Вяртаючыся да беларускіх школ ў Віленшчыне, мусім адказаць на розные закіды, якіе робяцца пад яе адрэсам з боку польскага грамадзянства. Кажуць нам, што беларуская школа служыць толькі прыкрыцьцем для расейшчыны, якую быццам падтрымліваюць беларускіе дзеячы. Найчасьцей гэта ёсьць сьвядомая брахня, бо найгоршым ворагам беларускага адраджэньня якраз ёсьць расейшчына і ніводзін беларускі дзеяч ня будзе яе бараніць. Аб тым, што расейскіе школы ўзапраўды істнуюць, гэта нам ведама і мы маем пэўные весткі, што расейскі камітэт у Варшаве пачаў імі апякавацца. Але яны нічога супольнага з беларускімі школамі ня маюць, і, як нас заверылі ў беларускім аддзеле Дэпартамэнту асьветы, яны там не зарэгістраваны. Ня гледзячы на гэта, мы згаджаемся, што можа знайсьціся колькі вучыцялёў-русыфікатараў, якіе вядуць работу шкодную, але гдзе гэтага—запытаемся—ня можа быць?

Вялікшасьць вучыцялёў, праўда, быўшые вучыцялі расейскіх школ, але яны—людзі тутэйшые, прайшоўшые праз беларускіе курсы, якіе ажно

---

## Зьява 2.

ТЫЕ-Ж і КОСТУСЬ.

Уваходзіць Костусь з гітарай пад пахай і невялічкім клумкам.

КОСТУСЬ (да Стоража). Ну, што? ужо ўсё?

СТОРАЖ. Яшчэ, панок, толькі адзін куфар застаўся... Вось зараз прынясу... (выходзіць).

## Зьява 3.

ТЫЕ-Ж бяз СТОРАЖА.

КОСТУСЬ (да Старажыхі). А ў вас, цётка, скора ўжо ўсё будзе гатова?

СТАРАЖЫХА. Вокны ўжо памыла. Вось зараз толькі памыю падлогу—і канец.

КОСТУСЬ. Падлогу ня трэба, не пасьпееце. Ужо яны мабыць скора прыдуць. Сягоньня страшэнны мароз. Ад мокрай падлогі вільгасьць толькі разыходзіцца... А ў печы ўжо напалілі?

СТАРАЖЫХА. А як-жаж, панок, напаліла ўжо, напаліла. Гэта першым чынам, бо-ж тутака была сьцюжа, што нельга было вытрываць.

КОСТУСЬ. (занес сваю гітару і клумак у другі пакой, вярнуўся, закурыў люльку).

СТАРАЖЫХА. І вы тутака таксама жыць будзеце, паночку?

КОСТУСЬ. Але. Я вось у гэтым пакоі, а яны тут.

СТАРАЖЫХА. Цяпер панства мусіць на службе,—служаць недзе?

КОСТУСЬ. Зараз прыдуць з бальніцы. Ягоная жонка ляжала ў бальніцы.

СТАРАЖЫХА. Вось як! Пані хворая, значыць?

КОСТУСЬ. Але.

## Зьява 4.

ТЫЕ-Ж і ДАМАУЛАСЬНІК.

ДАМАУЛАСЬНІК (уваходзіць). Добры дзень!

КОСТУСЬ. Добры дзень!

ДАМАУЛАСЬНІК. Вось ужо значыцца і ўстрайваецеся, паночкі, на новай кватэры?

КОСТУСЬ. А вось ужо мала-што ня ўсё перанесьлі. Дзякаваць Богу, не далёка, перабрацца ня трудна.

ДАМАУЛАСЬНІК. Але, бо каб прыйшлося наймаць фурманку, дык дорага каштавала-б. Цяпер фурманка рэч дарагая (хітра)... А чаму вы пераехалі са старой кватэры, калі можна спытацца? Нядобрая была?

КОСТУСЬ. За вялікая. Шмат апалу ішло.

ДАМАУЛАСЬНІК. Тут кватэра добрая, сухая, цёплая.

КОСТУСЬ. Ну, покуль што не відаць, каб была цёплая.

тры разы ўстраіваліся для іх у Вільні, блізка ўсе вядомые асабіста беларускім школьным дзеячам і шмат хто з іх вёў беларускую работу ў школах у тые часы, калі гэта ня толькі не давала ніякае матэрыяльнае карысьці, але пахнула моцна вастрогам.

Гэтае самае вучыцельства гуртуецца ў вучыцельскіе саюзы і робіцца асновай грамадзянскага жыцьця ў заглохшых вясковых кутках.

Трэба быць толькі справядлівым. Калі на Верхнім Шлёнзку зьнемчаны паляк, які два гады таму назад праліваў кроў für Kaiser und Vaterland, а цяпер пачуўшы ў сваіх грудзёх польскае сэрца, аддасьць свой голас за забытую праз доўгіе гады бацькаўшчыну, а калі трэба будзе—аддасьць ёй сваё жыцьцё, дык — мілые паночкі! — чым горшы беларускі вучыцяль? Няўжож у ім ня можа адклікнуцца беларускае сэрца ў той час, калі наша бацькаўшчына разбудзілася ад векавога сну і кліча ўсіх сыноў сваіх будаваць Свой Дом.

Бр.

# У справе беларускае катэдры.

У Вільні—польскі унівэрсытэт. Закладзіны яго—добра памятаем — шчыра віталі ўсе нацыянальнасьці: няма бо перад навукай ні жыда, ні гэллена і сьвет яе роўна сьвеціць усім і кожнаму, хто толькі вочы мае і бачыць патрапіць.

Урэшці унівэрсытэт у Вільні! Гэта-ж было лятуценьне доўгіх дзесяткаў гадоў усяго места і усяго краю. Царскі ўрад баяўся як вагню вышэйшае школы ў нашым краі, а калі і былі гутаркі аб якім месці дык толькі не аб Вільні: тут магла разьвіцца найвялікшая „крамола" палітычная і найвялікшая небяспека маскоўскага цэнтралістычнага нацыяналізму — нацыянальны рух. Палітыкай расейскага ўраду было распыліць тутэйшую моладзь па усей Расеі, каб яна не магла вытварыць сваіх нацыянальных цэнтраў у роднай сталіцы. Бачым на чужыне польскіе, літоўскіе, беларускіе студэнцкіе гурткі. Над Нявою адзін з мацнейшых асяродкаў беларускага адраджэньня. Ідэйные варункі ў атмасфэры рэволюцыйнага змаганьня расейскага студэнцтва за волю народу спрыялі. наагул кажучы, і нацыянальнаму руху.

Ня гледзячы на гэта проста нельга аблічыць тае шкоды, якую панёс увесь наш вялізарны край, а ў асабліваськці мы беларусы адтаго, што тутака блізка сто гадоў ня было ніводнае вышэйшае школы: міліёны грошай вывезеных у Расею і дзесяткі тысяч прапаўшых у ёй для краю высака-эдукованых людзей, інтэльлектуальны і грамадзкі застой у краі.

Ляжала патаптанаю вялікая для усіх „тутэйшых" народаў традыцыя Віленскага Унівэрсытэту а ў яго калісь слаўных мурох бушавалі маскоўскіе абрусіцелі і „рэзалі" свае ахвяры.

Гэтую традыцыю падняла ўваскросшая Польшча думкамі і стараньнямі нязьменнага романтыка, „вечнага студэнта" Язэпа Пілсудскага, Начальніка Дзяржавы.

Усе спадзяваліся, што паднятая традыцыя будзе захована і у адноўленым унівэрсытэце, што ён будзе служыць для усяго краю і ўсіх яго нацыянальнасьцей.

Гутарка зусім не аб тым, каб зрабіць Віленскі Унівэрсытэт утраквістычным, каб у ём навукі

---

ДАМАУЛАСЬНІК. Ну, няма дзіва, доўга пуставала. Як пажывецё тут крыху, дык яна сагрэйцца... Вы, калі можна спытацца, якую службу маеце?

КОСТУСЬ (нездаволяны). У пашпартах, паночку, напісана, усё ёсьць у пашпартах. Пашпарты-ж мы вам ужо перадалі праз стоража.

ДАМАУЛАСЬНІК (мягка). Але... але... Выбачайце, мя меў часу разгледзіць, столькі клопату... Бо цяпер пры немцах самі ведаеце, панок, як усё строга...

КОСТУСЬ. Але, але...

### Зьява 5.

ТЫЕ-Ж і СТОРАЖ.

СТОРАЖ (уваходзіць; да Костуся). Панок! Там упраўляючы не пазваляе забіраць рэчы. Кажа, каб паны заплацілі, што належыцца за старую кватэру.

КОСТУСЬ. Добра... Я іду там разам з вамі.

ДАМАУЛАСЬНІК (затрымоўвае яго). А тутака за новую квартэру дык будзеце, панок, ласкавы за тры месяцы наперад... у нас тут ужо такі парадак. Інакш нельга. Я ўжо вам казаў аб гэтым, як вы прыходзілі сюды першы раз, як глядзелі кватэру.

КОСТУСЬ (нездаволены). Добра, добра, я ведаю... Вы-ж задатак ужо атрымалі?

ДАМАУЛАСЬНІК. Задатак дык я атрымаў, але калі-ж будзе рэшта грошай?

КОСТУСЬ. Заўтра мы вам заплацім усё за тры месяцы.. (да Стоража). Ну, пойдзем! (выходзіць са Сторажам).

### Зьява 6.

СТАРАЖЫХА і ДАМАУЛАСЬНІК.

ДАМАУЛАСЬНІК. Да заўтра пакачаць можна. Заўтра—недалёка... Нешта надта падазрэнна выглядаюць гэтые новые кватэранты: за старую кватэру не заплацілі, перабраліся на новую—і усё: заўтра ды заўтра!... Думаюць мо', што і ў мяне можна гэтак сама! Не! дудкі! Не туды папалі! Са мной жартачкаў няма! Ня плоціш—вон, на вуліцу! Шукай сабе іншага прытулку, дзе цябе трымаць будуць дарма. У мяне не багадзельня. Мне рэмонт трэба рабіць, падаткі плаціць трэба, за вываз сьнегу плаціць трэба, за асэнізацыю плаціць трэба, за чыстку комінаў плаціць трэба,— а скуль узяць на гэта? з пальца не выламіш!... Не! дудкі! са мной гэтак не пажартуеш! Да заўтра пачакаем, а калі заўтра зноў будзе толькі абяцанка, дык я інакш з вамі пагутару. Я царамоніі рабіць ня буду!...

СТАРАЖЫХА. Панок! Мой казаў, што яны там ня толькі не заплацілі за кватэру, але навет

выкладаліся на ўсіх мяйсцовых мовах, у разе патрэбы навет па-расейску, што дапускае праф. Бодуэн-дэ-Куртэнэ (паляк ня горшы за другіх і ведамы на ўвесь сьвет вучоны). Можна было-б гаварыць і аб гэтым, знайсьці шмат pro і montra. Але гэта была-б безкарысная і ў сучасны момэнт недарэчная гутарка: у Вільні польскі унівэрсытэт і годзі.

Але гэты польскі унівэрсытэт павінен зьвярнуць увагу на культурные патрэбы і другіх народаў, што тут жывуць, і якіх, калі не ў самой Вільні, дык ва ўсім краі, усё-ж такі вялікшасьць.

Будзем гаварыць толькі аб гуманітарным аддзеле, бо хоць і на другіх навука мусіць даладзіцца да варункаў жыцьця і краю, то ўсё-ж гэта найбольш патрэбна для разьвіцьця гуманітарных навук. Бо і тут вучоны не павінен аказацца у ролі Сакрата, завешанага ў кошыку паміж небам і зямлёй. Ен павінен хадзіць па зямлі і як нормальны чалавек прыглядацца да ўсяго, што дзеецца ў жыцьці. Няўжо наш край і яго жывые народы не варты навуковых дасьледаў?

Хіба што варта пазнаньня яго багатая гісторыя, багацьце яго моў і асаблівасьці народаў. Усім гэтым павінен быў-бы заняцца Віленскі Унівэрсытэт.

Тымчасам калі возьмеце леташнюю праграму лекцый на гуманітарным аддзеле, то з самае праграмы, з прозьвішчаў прафэсараў ніяк не адгадаеце з якім унівэрсытэтам маеце да чыненьня.

Можаце думаць, што гэта Кракаў, Львоў, Познань, Варшава, Люблін, Польская амэрыканская колёнія, а не Вільня, наш край, бо тутака аб гэтым блізка што нічога, у кожным разе ня больш, чымся магло-б быць у кожным іншым польскім унівэрсытэце.

Хіба-ж Віленскі Унівэрсытэт ня хоча адсэпаравацца ад другіх народаў, хіба-ж ня думае назначыць нейкі процэнт для студэнтаў непалякаў. Сёлетні прыём, як мы чулі, паказаў навет нейкую прыхільнасьць да беларускай моладзі — і мы з гэтага дужа цешымся. На унівэрсытэце зьбіраецца ўжо даволі вялікі гурток студэнтаў-беларусаў (каля 30 чалавек). Калі беларуская моладзь горнецца да польскае навукі, то трэба-ж ей нешта даць, чаго яна патрабуе як беларуская частка краю. Трэба ей даць магчымасьць разьвіваць сваё нацыянальнае жыцьцё і навуку роднай мовы, літэратуры, гісторыі і этнографіі.

Сёлета нешта ўжо і зроблена ў гэтым кірунку, але-ж дужа неудачна. Есьць установлены лекторат беларускае мовы. На лектара запрошаны прафэсар Массоніус, чалавек тутэйшы, дужа добра вядомы нам і шанаваны. Адносіны яго вельмі прыязные для беларусчыны і не пакідаюць нічога жадаць з гэтага боку. Праф. Массоніус дужа добры лектар, лекцыі яго жывые, навет вясёлые. Але—адно маленькае „але“.. Лекцыі беларускае мовы гэта не выкладаньне мовы, а нейкіе фэльетонічные гутаркі аб беларускай мове, дужа часта далёкіе ад належнай навуковасьці.

Але гэта не віна праф. Массоніуса (які думаем за праўду на нас не загневаецца). Віна у самай аснове справы. Лекторат (накшталт лекторатаў чужаземных моваў) нічога не дасьць. Проста шкада змарнаванага часу. Практычна пазнаць беларускую мову ёсьць куды лепшые спосабы, ды беларусы яе і так ведаюць, а палякі або ведаюць таксама ня горш беларусаў або цікавіцца ня лічуць патрэбным. Дык для каго патрэбны такі лекторат. Нам дужа прыемна (шчыра кажам)

---

набралі ў краме ўсяго напавер і ўцяклі не заплаціўшы.

ДАМАУЛАСЬНІК. Вось міленькіе кватэранты!... А ты ўжо кінь тут капацца, а ідзі на вуліцу сьнег падметаць і пасыпаць тратуары пяском, бо ізноў праз вас прыдзецца штраф плаціць... Паліцыя не цэрамоніцца!... Мілые кватэранты! (выходзіць).

### Зьява 7.

СТАРАЖЫХА (адна).

СТАРАЖЫХА. Я ўжо зараз... ужо канчаю... (зьбірае ў кошык сьмяцьцё). Строгі пан, але справядліва кажа. Нічога нельга дарма. Сягоньня такі час, што ніхто табе дарма пальцам у боце ня кіўне, а не то каб кватэру даваць... Наняў кватэру, дык плаці, такі ўжо на сьвеце парадак...

### Зьява 8.

СТАРАЖЫХА, пасьля ВАСІЛЬ і ЯДЗЬКА.

Чуваць за сцэнай крокі. Голас Васіля за сцэнай: „Што? замарылася? Ну, вось ужо прыйшлі... Ну, вось ужо тут“..

Уваходзіць Васіль з Ядзькай. Ядзька ў старым парваным паліце, у хустачцы на галаве, трымае на руках завернутае ў падушку і коўдру дзіця.

ВАСІЛЬ (да Старажыхі). Ну, што, цётка, ўжо прыбрала хату?

СТАРАЖЫХА. А няўжож... Вось ужо кончыла.

ВАСІЛЬ. Вось гэта наша кватэра, Ядзька! Яна... нічога... вясёлая... Не вялічкая, але, здаецца, будзе цёплая...

ЯДЗЬКА (сядае на ўслончыку). Каб толькі была цёплая!.. У нас у бальніцы было цёпла... Каб дзіця не прасьцюдзілася!..

ВАСІЛЬ. Нічога.. Я дастаў дзьве вязкі дроў... Будзе цёпла...

СТАРАЖЫХА. Адну я ўжо спаліла. Гэты пан, што тут будзе з вамі жыць, казаў, каб напаліць у печы...

ВАСІЛЬ. А добра, добра... Ну, значыцца, яшчэ адна вязачка засталася... Ну, добра... (да Ядзькі). Чаму-ж ты не распранаешся, Ядзя?... Кладзіся..

ЯДЗЬКА. Чакай... Я адпачыну... замарылася!.. Тык высака!... На што ты так высака наняў кватэру? Гэта-ж здаецца, чацьвёрты поверх?

ВАСІЛЬ. Трудна было знайсьці іншую... Нічога, Ядзька, неяк будзем жыць... (да Старажыхі, каторая стаіць і прыглядаецца). Вы усё ўжо зрабілі? Ну, дык можаце сабе ісьці, цётка! Мы тут ужо ўсё самі..

(Працяг будзе).

што унівэрсытэт сёлета аб нас не забыўся, але з гэтага мала карысьці.

Справу трэба ставіць паважна адразу. Павінна быць устаноўлена катэдра беларускай мовы і літэратуры. Тут павінна знайсьці беларусчына паважнае навуковае распрацаваньне. Тут павінна стварыцца навуковая школа маладых вучоных, гэтак патрэбных беларускаму народу, адраджаючайся мове і літэратуры. А гэтакая школа можа стварыцца, бо ёсьць патрэба і ахвота сярод моладзі.

Ну і навука на гэтай катэдры павінна йсьці ў беларускай мове. Проста не бачым прычын, чаму, напр., праф. Glixelli летась мог выкладаць па-француску, а праф. Массоніус навет студэнтам забараняе зьвяртацца да яго пабеларуску, кажучы, што гэта можна... толькі на калідоры. Мы зналі пана Массоніуса, як свайго прыяцеля і думаем, што тут ёсьць нейкіе „паважнейшые“ прычыны, незалежные ад яго.

Ня трэба хіба даказваць, што гэта ў інтэрэсах польскіх, каб беларуская навука, у сваёй чыста нацыянальнай вопратцы, разьвілася у сьценах польскага унівэрсытэту у зьвязку з польскай культурай. А культура—ці не наймацнейшы злуч паміж народамі?

Ці неварта было-б падумаць аб гэтым віленскім айцэм навукі?

X.

## Сэмінарыя у Барунах.

У апошніе часы мы даведаліся сумную справу: што наладжэная з вялікай затратай энэргіі беларуская сэмінарыя ў Барунах, Ашмянскага пав. зачынена адміністратыўным парадкам 14 сакавіка г.г. без папярэдняй згоды з Дэпартамэнтам асьветы. У сэмінарыю прыйшоў рэвіровы І раёну Ашмянскага пав. п. Пугачэўскі, які зачыніў сэмінарыю. Падручнікі, бібліатэка і клясы зачыняны і запячатаны. Пры гэтым не абышлося бяз вясёлых жартаў з боку прысутных пры гэтай чыннасьці жандараў, жартаў, якія зусім не падыходзяць у адносінах з дзяцьмі, а асабліва ў гэтакі момант. Адзін з жандараў зьвярнуўся да дзяцей з гэтакай гутаркай: „A kto będzie czytał białoruskie książki, temu — kulka w łeb!..“ Cha-cha-cha! Не абышлося таксама і бяз зьдзеку з беларускай мовы.

Перад гэтым прыежджалі ўжо туды жандары рабіць рэвізыю і тады зьдзекаваліся з асабістай годнасьці вучцялёў сэмінары, лаючы іх брыдкімі расейскімі словамі; відаць, што популярнае „do cholery!“ страціла ўжо свой смак.

Але гэта цяпер справу ўлады, каб разабралася ў гэтым. Мы толькі разумеем, што беларуская вучыцельская сэмінарыя, калі ёсьць беларускіе школы, павінна быць і зачыняць яе нельга. Мы чулі, што зьявілася думка, каб перанесьці яе ў Вільню. Але кожны разумее, што гэтакі перанос у сярэдзіне вучобнага году гэта ёсьць тое самае, што і зачыніць сэмінарыю зусім.

І каму гэта патрэбна?

Калі ў Барунах мае быць памешчана нейкая польская школа, дык гэта можа быць эроблена толькі ў восені, бо ніякая школа цяпер переяжджаць ня згодзіцца, апрача таго будынак патрэбуе капітальнага рэмонту.

Беларуская Школьная Рада — як мы даведаліся — зусім не ўпіраецца за тое, каб сэмінарыя канешне была ў Барунах. Ідзе толькі аб тое, каб ёй дазволілі закончыць вучобны год на старым месцы.

Улетку можна перанесьці сэмінарыю ў другое месца, напр. у Маладэчну або Бярэзвеч, Буцлаў і г. п. месца, аб яком ніякай споркі быць ня можа.

## Патрыотычны паступак а. протойерэя Пяшкоускага.

Сёлета ў пачатку студня ў м. Вішневе Ашмянскага пав. закладалася беларуская пачаткавая школа. Дзеля таго што мястэчка ў вайну згарэла і яшчэ мала адбудавалася, будоўлю пад школу цяжка было знайсьці. Тады ацец протойерэй Пяшкоўскі зьвярнуўся да закладчыкаў школы і даў пад школу два вялізныя пакоі свайго дому. Здарылася адпак так, што назаўтрае гэтыя два пакоі былі рэквізаваны вайсковаю ўладаю. Тады ацец протойерэй, пацісну ўшыся сам, знайшаў яшчэ памяшчэньне ў сваім доме пад школу і ў школе пачаліся заняткі. Цяпер ў школе 60 дзяцей. Вучыцелем А. Сецька.

Пётра Станіч.

## Пэнсія беларускім вучыцялем.

Інспэктар Ашмянскага павету п. Лакуціеўскі дастаў пэнсію для беларускіх вучыцялеў за месяц люты і ўжо вучыцялём некаторых валасьцяў выплаціў грошы.

Інспэктар Сьвянцянскага павету кс. Шчамірскі ўжо дастаў пэнсію для беларускіх вучыцялёў свайго павету. Каб вучыцялём дастаць пэнсію, трэба зьвярнуцца ў Сьвянцяны да кс. Шчамірскага.

# Палітычная хроніка.

### Разруха у Расеі.

Весткі, якіе прыходзяць з Расеі сьведчаць, што цяперашняе крывавае змаганьне з дэспотызмэм чырвоных цароў прыняло вялізные разьмеры. Праўда, што чырвоная армія час-ад-часу перамагае контр-рэвалюцыянераў, але і няма дзіва: ліквідацыя ўсіх фронтаў пазваляе бальшавіком кінуць усе свае сілы на свой новы фронт—унутраны. Але голад даводзе людзей да роспачы і ніякі тэррор ня здолее накарміць галодных, калі ў старонцы транспарт дрэнна наладжаны, нястача найпатрабнейшых прадуктаў і поўная разруха. Агонь паўстань-

ння, ня гледзячы на бязлітасную расправу, абхопліває ўсё шырэйшые ды шырэйшые масы.

Апошніе весткі кажуць, што голад пачаўся ужо навет у арміі. Гарнізоны Петраграду і Масквы ня маюць чаго есьці. Салдаты нападаюць на прыватные кватэры. У цэнтры Расеі, асабліва каля Тверы пачаліся сялянскіе паўстаньні. На Беларусі і Украіне гэтак сама неспакойна. У Смаленшчыне паўстаньне, а на Украіне мае ўсьпех Махно. У Петраградзі агульная забастоўка.

Быць можа аднак, што і цяперашняе анты бальшавіцкае выступленьне будзе здушана, бо сучасны момант не спрыяе контр-рэвалюцыі. Згода з Польшчай і гандлёвая ўмова з Англіяй дадуць бальшавіком магчымасьць згуртаваць усе свае сілы і, крыху паправіўшы сваё эканамічнае палажэньне, на нейкі час утрымаць яшчэ ў руках сваіх уладу.

## Літоускі міністар аб сучасным моманце.

У гутарцы з карэспандэнтам газэты „Сегодня" літоўскі міністар заграничных справаў, Пурыцкіс, між інш. сказаў:

„У нашым грамадзянстве ідэя „Вялікай Літвы" ня мае прыхільнікаў. Мы хочам бачыць Літву ў яе этнографічных граніцах. Адначасна вельмі спагадліва глядзім на ідэю ўтварэньня незалежнай Беларусі. Калі гэта збудзецца, тады паявіцца справа фэдэрацыі Літвы і Беларусі, але покуль-што гаварыць аб гэтым зарана.

Зблiжэньне падбалтыцкіх дзяржаў ёсьць галоўнай справай нашай заграничнай палітыкі. Латвія, Літва і Эстонія маюць гэтулькі супольных політычных і эканамічных пытаньняў, што справа цеснай між імі стычнасьці ня мае праціўнікаў"...

„Straż Litwy".

# Чытайце і распаусюджывайце „БЕЛАРУСКІ ЗВОН"



Друкарня „ДРУК", Вострабрамская, 5. Рэдактар-Выдавец ФРАНЦІШК АЛЯХНОВІЧ.